


Грамадска-палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў

# Рэгіён

ЛІПЕНЬ 2015 г. № 4 (54)

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

**Номинальная начисленная среднемесячная заработная плата работников Могилевской области в январе-мае 2015 г.** составила 5 547,3 тыс. рублей, в том числе в мае – 5 833,8 тыс. рублей, и увеличилась по сравнению с апрелем 2015 г. на 1,9%, или на 109,8 тыс. рублей.

Реальная заработная плата (заработная плата, рассчитанная с учетом роста потребительских цен на товары и услуги) в январе-мае 2015 г. по сравнению с январем-маем 2014 г. уменьшилась на 4,1%, в мае 2015 г. по сравнению с апрелем 2015 г. увеличилась на 1,2%.

В мае 2015 г. в строительстве средняя заработная плата составила 6 758,2 тыс. рублей, на транспорте и в связи – 6 644,9 тыс., в промышленности – 6 044 тыс. рублей, в сельском хозяйстве и лесном хозяйстве – 4 847,3 тыс., в образовании – 4 777,2 тыс., в том числе учителей – 6 052,6 тыс., профессорско-преподавательского состава – 6 302,5 тыс. рублей. Заработная плата работников здравоохранения в мае 2015 г. сложилась в размере 5 540,5 тыс. рублей. Средняя заработная плата врачей составила 9 622,5 тыс. рублей, среднего медицинского персонала – 5 625,3 тыс. рублей.

**Налоговая служба формирует списки «тунеядцев» – жителей Могилевской области.**

Извещения налоговой службы о необходимости уплатить сбор неработающие жители Могилевской области получат по почте. Как сообщила 30 июня на пресс-конференции первый заместитель начальника инспекции Министерства по налогам и сборам РБ по Могилевской области Наталья Кулешова, процесс начнется в 2016 году.

# ШКЛОЎСКАМУ ЧЫНОЎНІКУ АДМОВЯЦЬ У ПАМІЛАВАННІ?

**Камісія па памілаванні пры прэзідэнце РБ 24 чэрвеня разгледзела прашэнне аб памілаванні былога намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама Яўгена Семянкевіча. Як паведаміў падчас прэс-канферэнцыі 25 чэрвеня намеснік Генеральнага пракурора РБ Аляксей Стук, які ўваходзіць у склад гэтай камісіі, камісія прыняла рашэнне рэкамендаваць кіраўніку краіны адмовіць Яўгену Семянкевічу ў памілаванні, бо былы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама падрываў аўтарытэт улады.**




Нагадаю паважаным чытачам, што Яўген Семянкевіч у якасці намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама курыраваў пытанні будаўніцтва і камунальнай гаспадаркі. Крымінальная справа ў адносінах да яго была ўзбуджана ў мінулым годзе па частцы 3 артыкула 424 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (злоўжыванне ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі).

Па словах жыхароў Шклоўскага раёна, Яўген Семянкевіч паставіў на ўлік без чаргі ў якасці патрабуючай паляпшэння жыллёвых умоў сям'ю сваёй дочкі, якая ўжо мела жыллё ў іншым горадзе. Дзякуючы такой хітрасці гэта сям'я ўзяла ільготны крэдыт і атрымала кватэру яшчэ і ў Шклове.

Жыхары Шклова не вельмі вераць у тое, што былы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама будзе прыцягнуты да адказнасці. Па іх словах, спадар Семянкевіч вельмі даўно асабіста добра знаёмы з кіраўніком краіны Аляксандрам Лукашэнка. Яшчэ ў далёкім 1980 годзе яны разам гулялі ў адной футбольнай камандзе, пастаянна падтрымлівалі добрыя стасункі і пазней.

Пакуль дакладна не вядома, ці будзе пакарана хоць нейкім чынам і былая кіруючая справамі Шклоўскага райвыканкама Людміла Глякава. Напрыканцы мінулага года супраць Людмілы Глякавай узбуджалася

*(Заканчэнне на стар. 2)*

# ШКЛОЎСКАМУ ЧЫНОЎНІКУ АДМОВЯЦЬ У ПАМІЛАВАННІ?

(Заканч. Пачатак на стар. 1)

крымінальная справа па абвінавачванні ў крадзяжы шляхам злоўжывання ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі, яна падазравалася ў крадзяжы 29 мільёнаў рублёў. Пэўны час былая шклоўская "вертыкальшчыца" нават утрымлівалася пад вартай, аднак зараз Людміла Глякава знаходзіцца на волі, гуляе па роднаму гораду. Жыхары Шклова перакананыя, што Аляксандр Лукашэнка, на імя якога Глякава накіроўвала адмысловае прашэнне, вызваліў ад адказнасці сваю зямлячку.




Наогул, у мяне асабіста складваецца ўражанне, што шклоўская зямля неяк прыцягвае карупцыянераў самых розных узроўняў. Ды гэта і не дзіўна, бо менавіта ў "малую радзіму" Аляксандра Рыгоравіча ў нашай Магілёўскай вобласці ўкладваецца найбольшая колькасць грошай з бюджэтаў розных узроўняў.

Так, напрыканцы мінулага 2014 года да 14 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці за аферу з закупкай племянной жывёлы для патрэб гаспадарак раёна быў асуджаны былы першы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Дзмітрый Мінянкоў.

Ужо ў гэтым годзе пракуратурай ўзбуджана крымінальная справа супраць былога намесніка дырэктара РУП "Завод газетнай паперы" у Шклове, які падазраецца ў перавышэнні ўлады альбо службовых паўнамоцтваў. "Дзякуючы" дзеянням намесніка дырэктара прадпрыемства недаатрымала 280 тысяч еўра.

Днямі ўступіў у законную сілу прысуд у адносінах майстра філіяла "Магілёўаблдарбуд" ДРБУ-175 горада Шклова, які "сцібрыў" у роднага прадпрыемства 23 тоны дызельнага паліва, прычыніўшы яму агульныя страты ў памеры 176 мільёнаў рублёў. Па прысуду суда прадпрымальнаму майстру прызначана пакаранне ў выглядзе 8 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці, з пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з арганізацыйна-распарадчай і адміністрацыйна-гаспадарчай дзейнасцю тэрмінам на пяць гадоў.

Толькі ў перыяд з 2010 г. па 2014 г. у Шклоўскім раёне выкрыты факты крадзяжу чыноўнікамі грашовых сродкаў на суму больш 70 мільярдаў рублёў, з якіх 40 мільярдаў так і не павернуты бюджэту і суб'ектам гаспадарання.

Па інфармацыі журналістаў "Рэгіёна", супрацоўнікі праваахоўных органаў і зараз расследуюць некалькі крымінальных спраў у адносінах шклоўскіх "начальнікаў".

***Іван Барысаў***



## ИЗ СВОДКИ УВД

19 июня СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) в отношении жителя а.г. Техтин Белыничского района, 1999 г.р., который в период с 15 июня по 17 июня со двора дома односельчанина, 1984 г.р., путем сводного доступа похитил 11 уличных фонарей. Похищенное изъято. Раскрыто ОУР.

19 июня СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) в отношении неработающей, ранее судимой жительницы г. Чаусы, 1993 г.р., которая 17 июня в пос. Восточный Круглянского района во дворе дома родственников по ул. Центральной из кармана брюк спящего в состоянии алкогольного опьянения неработающего жителя г.п. Круглое, 1976 г.р., похитила 600 000 руб. Раскрыто ОУР.

19 июня Шкловским РО СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) в отношении жительницы д. Подгайцы, 1974 г.р., которая 10 июня из подъезда дома по ул. Почтовой путем свободного доступа похитила велосипед у местной жительницы, 1966 г.р. Похищенное изъято. Раскрыто ОУР.

18 июня ГБЭП, ОГАИ, ИМНС по Шкловскому району на выставке–ярмарке «Шкловскі кірмаш» по ул. Советской установлен факт реализации непродовольственных товаров (пледы, подушки, столовые комплекты) без документов, подтверждающих легальность приобретения. Товар на сумму 76 307 500 рублей изъят. Проводится проверка.

25 июня СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) в отношении неработающей жительницы д. Рогач Белыничского района, 1990 г.р., которая 31 мая, находясь в доме односельчанки, 1962 г.р., после совместного распития спиртных напитков, похитила 486 500 руб., 15 000 руб. ЦБ РФ. Раскрыто ОУР.

15 июня ОГАИ в рамках СП «Мак» в д. Мокровичи на заброшенном участке нежилого дома на площади 0,0015 га обнаружено и уничтожено 13,2 кг. дикорастущего мака.

## ЛУКАШЭНКА ПАДАРАВАЎ ЖАНЧЫНЕ КАЗЛА, А ПРА АБЯЦАННЕ ВЕТЭРАНУ ВАЙНЫ ЗАБЫЎСЯ?

Аляксандар Лукашэнка падараваў жыхарцы горада Слаўгарада Галіне Таран казляня, паведамляе інтэрнэт-сайт глускай раённай газеты “Радзіма”.

26 красавіка кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка наведаў горад Слаўгарад, дзе пакаштаваў прадукцыю мясцовых сыраробаў і яна яму спадабалася. Лукашэнка паабяцаў адной з жанчын-сыраробаў, што падорыць ёй казляня і даў адпаведнае даручэнне свайму памочніку па Магілёўскай вобласці Генадзю Лаўранкову і мясцоваму дэпутату Палаты прадстаўнікоў Таццяне Кананчук.

4 чэрвеня казляне галанскай пароды даставілі Галіне Таран. Жанчына назвала яго Дарыкам і пасля таго, як казляня вырасце, збіраецца выкарыстоўваць яго для племянной справы, каб Дарык абнаўляў мясцовы казіны статак, піша інтэрнэт-сайт газеты “Радзіма”.

Добра, што Аляксандр Лукашэнка дапамог слаўгарадскім сыраробам з аднаўленнем казінага статка, аднак сумна, што кіраўнік краіны забыўся пра яшчэ адно абяцанне, якое ён даў у Слаўгарадзе ветэрану вайны.

Падчас сустрэчы з мясцовымі ветэранамі вайны у Слаўгарадзе 26 красавіка Лукашэнка паабяцаў ветэрану Феліксу Шкірманкову скасаваць дарожны падатак на аўтамабілі для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. На вялікі жаль, сваё абяцанне да гэтага часу кіраўнік краіны так і не выканаў. Перад праходжаннем чарговага тэхагляду свайго аўтамабіля напрыканцы траўня ў гэтым годзе Фелікс Шкірманкоў быў вымушаны заплаціць 600 тысяч рублёў дарожнага падатку.

Магчыма, такое рознае стаўленне да выканання абяцанняў з боку кіраўніка краіны выклікана тым, што ветэран Вялікай Айчыннай вайны, кавалер некалькіх баявых узнагарод, грамадскі актывіст Фелікс Шкірманкоў з’яўляецца шматгадовым сябрам Партыі БНФ і ТБМ імя Францыска Скарыны, і пастаянна выказвае свае меркаванні, адрозныя ад меркаванняў дзеючай улады.

*Барыс Вырвіч*

## ИЗ СВОДКИ УВД

25 июня СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) в отношении жителя г.п. Круглое, 2000 г.р., который 24 июня от дома по ул. Советской похитил оставленный без присмотра велосипед у местной жительницы, 1976 г.р. Похищенное изъято. Раскрыто ОУР.

30 июня СК возбуждено у/д по ст. 186 УК (Угроза убийством) в отношении неработающего жителя агрогородка Головчин Белыничского района, 1959 г.р., который 6 июня в своем доме по ул. Могилевской, в ссоре, угрожал убийством ножом бывшей сожительнице, 1965 г.р. Раскрыто УИМ.

30 июня в д. Староселье Шкловского района ОДО, УИМ в ходе осмотра жилища неработающего, 1960 г.р., обнаружено и изъято 120 л. браги.

29 июня прокуратурой Климовичского района возбуждено у/д по ст. 154 ч. 1 УК (Истязание) в отношении жительницы д. Лобжа, 1983 г.р., которая в период с августа 2014 года по 16 мая 2015 г., в ссоре, систематически избивала мужа, 1982 г.р. Раскрыто ООПП.

## ПАЛАТА ПРАДСТАЎНІКОЎ ПРЫЗНАЧЫЛА ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА НА 11 КАСТРЫЧНІКА

**Выбары прэзідэнта Беларусі пройдуць 11 кастрычніка — такое рашэнне прыняла 30 чэрвеня Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. За аднагалосна прагаласавалі 102 дэпутаты.**




У адпаведнасці з заканадаўствам прэзідэнцкія паўнамоцтвы Аляксандра Лукашэнкі заканчваюцца 21 студзеня 2016 года. Выбары павінны прайсці не пазней чым за два месяцы да гэтай даты, а прызначаныя — за пяць месяцаў. Такім чынам, апошні тэрмін правядзення прэзідэнцкіх выбараў — 20 лістапада 2015 года.

Раней найболей верагоднай датай іх правядзення старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына называла 15 лістапада (апошняя нядзеля перад заканчэннем магчымага тэрміну правядзення выбараў). Аднак пасля сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам 9 чэрвеня яна заявіла журналістам, што Цэнтрвыбаркам прапануе правесці выбары 11 кастрычніка.

Чаму Палата прадстаўнікоў вырашыла перанесці выбары на больш блізкі тэрмін, у прынцыпе, зразумела. Эканоміка нашай “квітнеючай” краіны знаходзіцца ў глыбокім крызісе, нейкага паляпшэння сітуацыі бліжэйшым часам чакаць не даводзіцца. Больш за тое, незалежныя эканамісты ў адзін голас кажуць, што далей эканамічная сітуацыя ў краіне будзе толькі пагаршацца. Таму, пакуль народ знаходзіцца ў традыцыйным летнім “расслабоне”, і вырашылі правесці раней чарговую кампанію па пераабранню прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.

А ў тым, хто будзе зноў названы пераможцам выбараў у 2015 годзе, не сумняваецца зараз практычна ніхто. Пасля выбараў 2010 года апазіцыя ў нашай краіне знаходзіцца ў напалову разгромленым стане, да гэтага часу

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ НАБЫЛО ВЯЛІКІ БУДЫНАК У МАГІЛЁВЕ

**Будынак завода "Строммашына" на вуліцы Першамайскай у Магілёве набыло Міністэрства юстыцыі Беларусі. Плануецца, што пасля афармлення дакументацыі і правядзення рамонту яго зойме галоўнае упраўленне юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама.**

Адпаведную інфармацыю парталу TUT.BY паведаміў начальнік галоўнага упраўлення юстыцыі Аляксандр Маймусаў. Згодна Аляксандра Маймусава,- галоўнае ўпраўленне юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама шукала адпаведны будынак каля патары года, "увесь гэты час 120 чалавек туліліся па розных кабінетах у розных кропках горада: судах, офісных памяшканнях". Чыноўнік кажа, што "судовыя выканаўцы пісалі важныя дакументы ледзь не на каленях".




Па словах Аляксандра Маймусава, тое, што зараз усе супрацоўнікі, а таксама архіў упраўлення будуць размяшчацца ў адным будынку, спросціць і працу з насельніцтвам, людзям будзе зручней туды дабірацца.

На публічны гандаль 4-х павярховы будынак заводакіравання "Строммашыны" выставілі 11 чэрвеня. Нерухомасць была арыштаваная за нявыплату па закладу. Кошт вялізнага будынку плошчай 3279,8 кв. м ацанілі ў 30 млрд. 362 млн. рублёў. Пасля прызнання публічнага гандлю не адбыўшымся, бо ў ім удзельнічаў толькі адзін пакупнік, яму прапанавалі набыць будынак з падвышэннем кошту на 5%, т.ё. за 31 775,1 млр. рублёў.

Гэтым адзіным пакупніком на офісны будынак у самым цэнтры Магілёва аказалася Міністэрства юстыцыі РБ. Як кажа сам Аляксандр Маймусаў,пабудаваць падобны па плошчы будынак каштавала б каля 150 млрд. рублёў, таму рашэнне аб удзеле ў гандлі было прынята адразу ж.

Многія жыхары Магілёўшчыны здзіўлены тым, адкуль у "бедных" чыноўнікаў з міністэрства юстыцыі, якія рэгулярна кажуць пра рэжым жорсткай эканоміі, знайшліся грошы на куплю вялізнага будынка ў цэнтры Магілёва. Між тым гэты будынак патрэбна яшчэ і ўтрымліваць, прычым за грошы шэраговых падаткаплацельшчыкаў, бо галоўнае ўпраўленне юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама з'яўляецца бюджэтнай арганізацыяй.

Магіляўчане таксама кажуць пра тое, што раней усе аблвыканкамаўскія службы без праблем размяшчаліся ў будынку Магілёўскага аблвыканкама, які ў простамоўі называюць "Домам Саветаў", а зараз, пасля шмат разоў абвешчаных скарачэнняў чыноўнікаў, яны "распаўзліся" па ўсяму Магілёву. У той жа час простыя працаўнікі вымушаныя зараз эканоміць на самым неабходным, атрымліваючы мізэрныя заробкі.

Той жа завод "Строммамшына", адзін з буйнейшых у Магілёве, зараз фактычна з'яўляецца банкрутам. Акрамя адміністрацыйнага будынка, які быў арыштаваны і выстаўлены на публічны гандаль за нявыплату па закладу, і які набыло міністэрства юстыцыі, прадаецца яшчэ цэлы шэраг аб'ектаў гэтага прадпрыемства. На заводзе ўжо некалькі месяцаў не выплачваўся цалкам заробак працаўнікам, існавала вялікае запазычанасць па выплаце заробкаў, людзей адпраўлялі ў вымушаныя адпачынкі. І толькі напрыканцы чэрвеня, пасля продажу будынку заводакіравання мінюсту, на "Строммашыне" пачалі пагашаць запазычанасць па выплаце заробкаў перад сваімі работнікамі і былымі працаўнікамі, якія ўжо звольніліся з прадпрыемства.

На жаль, у "сацыяльна арыентаванай", як сцвярджаюць яе кіраўнікі, Рэспубліцы Беларусь, больш клапоцяцца пра чыноўнікаў і ўмовы іх нялёгкай працы, чым пра шэраговых грамадзян краіны.

***Сяргей Семяновіч***

### Знешняя дзяржпазыка Беларусі павялічылася да 12,7 млрд долараў

Міністэрства фінансаў паведамляе, што па стане на 1 чэрвеня 2015 года знешняя дзяржаўная пазыка павялічылася на 130,4 млн долараў ці на 1% (з улікам курсавых адрозненняў) і дасягнула 12,7 млрд долараў.

# ПИСАТЕЛЬ СЕРГЕЙ АНТОНОВ: ЛЮДИ ЛЮБЯТ МОЮ ФАНТАСТИКУ, НО НОВАЯ КНИГА - О РЕАЛЬНЫХ СОБЫТИЯХ 41-ГО ГОДА В БЫХОВЕ

**Известный на всю Россию фантаст рассказал, почему не переезжает в Москву, как стать знаменитым и какие книги читали бы белорусы.**



*Сергей Антонов*

В начале апреля роман белоруса Сергея Антонова «Темные туннели» был издан в Польше - весь тираж (а это 10 000 экземпляров, для Польши не так уж и мало) раскупили всего за две недели. Сергея Антонова любят не только в Польше, но и в России, Германии, Южной Корее, а вот на родине почти не знают.

- Сергей, как так вышло: в Москве тиражи и популярность, а в Беларуси ваше имя почти не известно?

- Сложно сказать. Когда-то я был известен своим участием в политической жизни страны, был членом партии БНФ - в то время это была партия мечтателей, поэтому я ее и выбрал. Но потом я увидел, что не столько я занимался политикой, сколько меня использовали: мол, Антонов, писатель из БНФ… Мне это надоело - я ушел из политики. Возможно, это и стало причиной того, что я непопулярен здесь. А возможно, причина в другом: мои книги продаются не только в России, но и в Беларуси, но берут их здесь хуже. Если в Москве потратить на книгу 300 российских рублей - это немного, то для Беларуси эти 90 - 100 тысяч - довольно дорого. Вот так и получилось, что меня считают московским автором. Мало кто знает, что я живу в провинциальном белорусском городке.

- И как вы из провинции попали в московское издательство?

- Все началось в 1992 году, когда я окончил институт и попал в районную газету в Быхове. Я инженер-механик, но так получилось, что по специальности устроиться не удалось, и я начал сотрудничать с разными газетами. Потом были первые книги, изданные небольшим тиражом в издательстве «Амадеус». А потом меня пригласили в проект «Метро» - и здесь уже пошли большие тиражи и переводы.

- Почему серия «Метро» стала так популярна?

- Руководитель проекта Дима Глуховский не только талантливый автор, но и бесподобный продюсер. Но самое главное - он создатель целого мира, как Пол Андерсон или Роджер Желязны. Дима сумел уместить в своем московском метро весь наш мир в миниатюре. Ну и, кроме того, наши люди все-таки любят читать. И, в частности, любят читать про постапокалипсис.

- Вы легко вписались в эту серию? Ведь именно роман «Темные туннели», изданный в серии «Вселенная метро 2033», принес вам наибольшую известность…

- Если ты соответствуешь ожиданиям, тебя будут читать, а я очень хорошо вписался в мир, созданный Глуховским, мне даже удалось его в какой-то мере расширить и дополнить. Действие происходит параллельно с событиями книги Глуховского в 2033 году в московском метро, где живут люди после апокалипсиса. Главный герой - анархист, почитатель Бакунина и Кропоткина, знаток поэзии Гумилева. Он путешествует между станциями метро и попадает в различные ситуации.

- Глуховский как-то вмешивался в творческий процесс?

- Первые книги серии он читал от корки до корки, даже исправлял там что-то, мы с ним много спорили. Он очень трудолюбивый человек. На свою свадьбу, в первую брачную ночь - ну так совпало - ему надо было вычитать книгу, и он уснул, читая ее. Сейчас он уделяет серии меньше внимания, сам уже ничего не правит. Пишет новые романы. Свои следующие книги в проекте - «В интересах революции», «Непогребенные» - я писал уже без авторского вмешательства Дмитрия.

- А вам самому какая из ваших книг наиболее дорога?

- Одна из первых - «Скальпель доктора Менгеле». Это ужастик о том, как скальпель, принадлежавший некогда главному врачу Освенцима Йозефу Менгеле, попадает в наше время, в руки хирурга, который становится таким же безумным, как доктор Менгеле. Тогда я еще толком-то и писать не умел, но книга была написана от души, вне всякой коммерции, и каким-то чудом она оказалась в формате издательства «Амадеус» - вписалась в специальную серию «По ту сторону», и ее опубликовали.

**«ПРОТОТИПЫ МОИХ ГЕРОЕВ ЖИВУТ В БЫХОВЕ»**

- Если не секрет, гонорары позволяют вам заниматься только творчеством?

- Сейчас я уже могу себе позволить жить за те деньги, которые приносят мои книги. Но вообще надо быть готовым к тому, что это убыточное дело. Кинг говорил: «Молодой литератор должен быть готов к тому, чтобы, как Фолкнер, работать почтальоном». Сейчас я исполняющий обязанности директора «Быховрайбытуслуги» - это такая хозяйственная должность. Так я отвлекаюсь от литературы и доказываю, что

*(Окончание на стр. 6)*

# ПИСАТЕЛЬ СЕРГЕЙ АНТОНОВ: ЛЮДИ ЛЮБЯТ МОЮ ФАНТАСТИКУ, НО НОВАЯ КНИГА - О РЕАЛЬНЫХ СОБЫТИЯХ 41-ГО ГОДА В БЫХОВЕ

*(Окончание. Начало на стр. 5)*

я могу делать что-то еще. Сейчас мне интересно научиться составлять строительные сметы - почему бы и нет?

- Не тесно известному московскому писателю в Быхове?

- Нет, я уже привык, я люблю свой город и вполне комфортно себя здесь чувствую. Здесь нормально пишется, здесь живут прототипы моих героев… Мне предлагали быть редактором в одном московском издательстве, но я пока не готов к тому, что бы править кого-то другого. Сейчас мне интересней писать самому, и чтобы меня кто-то исправлял, наставлял на путь истинный, когда меня заносит. Я пишу прежде всего для себя, для своего удовольствия.

- Не в этом ли секрет успешного писательства?

- Чтобы стать успешным писателем, нужно, во-первых, самому много читать. Во-вторых, быть готовым к тому, что добрая половина того, что пишешь, может уйти в стол. То, что люди читают какие-то мои книги, не говорит о том, что они будут читать абсолютно все, что я написал. Сейчас я зажат в рамках «Метро», и мои книги вне этой серии проходят с трудом, издаются меньшими тиражами, хуже покупаются.

**«НА БЕЛОРУССКОМ НЕ КАЖДЫЙ СТАНЕТ ЧИТАТЬ»**

- Сергей, сейчас все читают с электронных носителей, неужели остался кто-то, кто покупает бумажные книги, когда можно скачать бесплатно?

- Пиратство есть, но тем не менее многие люди ругают пиратов и покупают книги. Например, в нашей группе ВКонтакте почти 80 тысяч участников - вот эти люди и покупают, обсуждают, где купить дешевле. Мы, авторы «Метро», мало того что привлекли к чтению ранее не читавшую аудиторию, так еще и привили любовь именно к бумажным книгам. Да и сам я книги читаю только в бумажном варианте - в этом плане я очень консервативен.




- А что читаете?

- Раньше я коллекционировал книги и очень много читал: у меня есть весь комплект «Фантомаса», «Джеймса Бонда», я почти наизусть знаю «Мастера и Маргариту» - это одна из моих любимых книг, Ильфа и Петрова. Но, к сожалению, сейчас все меньше и меньше читаю других авторов, потому что приходится перечитывать самого себя. Тем не менее все новинки Кинга я покупаю.

- А кого из современных белорусских писателей знаете?

- Мой любимый белорусский писатель - Быков. Что касается современных авторов, то тут я солидарен с президентом, который сказал: «Прошло 20 лет, а ничего не написано». Но я хочу исправить эту ситуацию: сейчас пишу книгу о Быхове. Она основана на реальных событиях. Население Быхова в 1941 году за две недели уменьшилось вдвое: было десять тысяч человек, а стало пять - об этом я и расскажу, а еще о том, как расстреляли быховских евреев в 1941 году. Я хочу, чтобы книга рассказывала о войне, воспитывала патриотов и при этом была читаемой.

- Как вам кажется, каких книг, каких авторов не хватает Беларуси?

- Сейчас мы настолько русифицировались, что нашу читательскую аудиторию вряд ли можно отделить от российской. Это не наша вина: расцвет белорусской государственности приходился на XV век, потом был перерыв, и более-менее при всей ограниченности суверенитета мы смогли развиваться полноценно только в составе СССР. Я просматриваю произведения белорусских писателей - но в основном это игра, фразеологизмы, неологизмы, то есть не сама Беларусь, а «нейкі беларускі каларыт». Не вижу я пока авторитета, который смог бы сделать белорусскую литературу белорусской. Для этого просто, наверное, еще рано. Если нам и заявлять о себе, то помимо того, что книга должна быть интересной, она должна быть на русском. На белорусском не каждый станет читать - и это наша беда.

СПРАВКА «Рэгіёна»

Сергей Антонов родился в Быхове в 1968 году. В 1992 году закончил Могилевский технологический институт. Автор 16 романов, ряда повестей и рассказов. Наибольшую популярность ему принес фантастический роман «Темные туннели», изданный в серии «Вселенная Метро 2033» тиражом 140 000 экземпляров.

Известный московский писатель Сергей Антонов на самом деле живет в Быхове и уезжать оттуда не собирается.

***“Комсомольская правда”***

# БЯЛЫНІЦКАЕ ГАБРЭЙСТВА: АД ЧАСОЎ ПРАКАВЕТНЫХ ДАСЁННЯ

*(Заканч. Пачатак у №3)*

Адказы на гэты ліст захоўваюцца ў Расейскім дзяржаўным гістарычным архіве (Санкт-Пецярбург). Дзякуючы ім сёння можам сказаць, напрыклад, што па стану на 1 красавіка 1853 года ў Магілёўскай губерні налічвалася 327 габрэйскіх духоўных пасадавых асобаў, якія працавалі ў сінагогах і малітоўных дамах. А сярод 9 равінаў з усіх губерняў мяжы габрэйскай аселасці, якія да моманту складання спісаў выконвалі свае абавязкі больш за 25 гадоў, адзначаны і Ора Ліфшыц – равін мястэчка Бялынічы Магілёўскай губерні. Да слова сказаць, Ора Ліфшыц на той час знаходзіўся пры сваёй пасадзе 36 гадоў – быў зацверджаны ў якасці равіна яшчэ ў 1817 годзе.

Па звестках на 1908 год, агульная колькасць насельнікаў Бялынічаў складала 2193 чалавекі, з якіх 993 з'яўляліся хрысціянамі, а 1200 – іудзеямі. У Галоўчыне жыло 911 жыхароў хрысціянскага веравызнання і 676 – іудзейскага. Паводле саслоўнай прыналежнасці насельніцтва абодвух мястэчак складалася з: сялянаў – 950 (у Бялынічах), 911 – у Галоўчыне, мяшчанаў, адпаведна, 400 і 200, асобаў духоўнага чыну – 12 і 10, дваранаў – 27 і 6.

У Бялынічах на той час дзейнічалі 4 сінагогі.

Што ж да Галоўчына, то ў пісьмовых крыніцах, якія апісваюць тагачасны перыяд, не ўпамінаецца наяўнасць у ім сінагогі. Хутчэй за ўсё галоўчынскія габрэі спраўлялі набажэнствы ў малітоўных дамах і бялыніцкіх сінагогах.

Напачатку прамінулага стагоддзя ў Беларусі рэзка абвастрыліся грамадска-палітычныя, сацыяльныя, нацыянальныя супярэчнасці, якія выклікала захопніцкая, каланіяльная палітыка расейскай улады ў краі. Мясцовае насельніцтва – беларусы, палякі, габрэі – было крайне абмежаванае ў



сваіх правах. Жорсткай дыскрымінацыі поруч з карэннымі насельнікамі падвяргаліся і габрэі, што надзвычай спрыяла развіццю сацыял-дэмакратычнага руху. На гэтым сацыяльным, грамадска-палітычным фоне ў габрэйскім асяродку закладаецца і паўстае Бунд ("Агульны Габрэйскі Рабочы Саюз у Літве і Польшчы"), які неўзабаве пératвараецца ў найбольш значную рэвалюцыйную арганізацыю, што супрацьстаяла ўладам нават збройным чынам і рабіла пэўны ўплыў таксама і на рабочых негабрэяў.

Арэнай гэтага супрацьстаяння сталі таксама і вуліцы Магілева, некаторых прыдняпроўскіх мястэчак. Асабліва абвастрылася яно ў 1902–1905 гадах, калі Магілеўскую губернскую адміністрацыю ачольваў крайні антысеміт і рэакцыянер М. Клінгенберг.

З пачаткам руска-японскай вайны па ўсей Магілеўскай губерні прайшлі "патрыятычныя" маніфестацыі ў падтрымку ўрада, на якіх загучалі абвінавачванні і пагрозы ў адносінах да габрэяў за нібыта іхнюю "здраду Расіі на карысць Японіі".

Напачатку кастрычніка (9-га) была абвешчана мабілізацыя. Апоўдні групоўкі падлеткаў і магілеўцаў, узброеныя камянямі і палкамі, пачалі збіваць габрэяў, рабаваць іхнія дамы і лаўкі. За тры дні пагромшчыкі ў Магілеве забілі двух габрэяў, разрабавалі і зруйнавалі 100 дамоў і 25 крамаў.

Адначасова з габрэйскімі пагромамі ў Магілеве яны прайшлі яшчэ і ў 12 гарадах і мястэчках магілеўшчыны. У тым ліку і ў Галоўчыне . Актыўны ўдзел у іх прынялі сяляне – "запасныя", якія патрапілі пад уплыў антысеміцкай правакацыйнай прапаганды.

Паколькі ўсе габрэйскія пагромы на Магілеўшчыне супалі з абвяшчэннем пачатку мабілізацыі на руска-японскую вайну, яны ў гістарычнай літаратуры атрымалі найменне "мабілізацыйныя".

Паводле перапісу насельніцтва, праведзенага ў 1924 годзе, габрэі ў Бялыніцкім раёне складалі найбуйнейшую нацыянальную групоўку і займалі другое месца пасля беларусаў. Усіх жыхароў налічвалася 48396 чалавек. Беларусамі назваліся 45377, габрэямі – 1646, палякамі – 886, расейцамі – усяго 464.

Вялікія выпрабаванні на долю беларускага, а гэтаксама і габрэйскага насельніцтва выпалі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Паводле "Акта камісіі Бялыніцкага раёна па ўстанаўленню і расследаванні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў і іх паслугачоў", які быў складзены ў лістападзе 1944 года, "усяго па раёну расстраляна, павешана, спалена, угнана ў нямецкае рабства 3315 чалавек, не лічачы 224 чалавек расстраляных, пражываючых у Бялынічах яўрэйскага насельніцтва, якое прыбыло з Заходняй Беларусі, прозвішчы, імёны, імёны па бацьку якіх устанавіць не ўдалося".

У верасні 1941 года па Бялыніцкаму сельсавету немцы аб'явілі збор усяго мужчынскага габрэйскага насельніцтва нібыта для выбараў старасты. Калі сабралася больш за 150 габрэяў, ім аб'явілі, што яны накіроўваюцца на пабудову маста праз Друць. Іх там распранулі да ніжняй бялізны і расстралялі.

Астатніх габрэяў з Бялынічаў, а таксама прыгнаныя ў мястэчка габрэйскія сем'і, больш за 600 чалавек, фашысты ўтрымлівалі

*(Заканчэнне на стар. 8)*

## БЯЛЫНІЦКАЕ ГАБРЭЙСТВА: АД ЧАСОЎ ПРАКАВЕТНЫХ ДАСЁННЯ

*(Заканч. Пачатак на стар. 7)*

да 12 снежня 1941 года ў гета, якое размяшчалася ў прамакутніку цяперашніх вуліцаў райцэнтра – Энгельса і Кірава.

Аб дзесятай гадзіне раніцы таго трагічнага дня іх пастроілі ў калону і пад прапановай перасялення ў Эсьмоны, павялі ва ўрочышча "Мхі", дзе і расстралялі .

"Процесс расстрела немецким карательным отрядом, – адзначаецца ў "Акце..." – производился следующим образом: в заранее приготовленных на месте двух ямах размером каждая 40 х 30 х 3 м заставляли обреченных по одиночке раздеваться до нижнего белья, зайти в яму и лечь лицом вниз, после заполнения рада их с автоматов расстреливали, после укладывали следующий ряд до тех пор, пока не перестреляли всех. После этого жуткого злодеяния вся одежда, обувь и ценности были на подводах доставлены в г. п. Белыничи, откуда часть ценностей и вещей были увезены карательным отрядом на трех автомашинах в Могилев, а остальное роздано немцам и их сообщникам.

Массовые расстрелы мирных граждан производились кроме указанных мест и в урочищах "Салотопка", "Еврейское кладбище" и в лесу урочища Белыничской МТС".

Паводле няпоўных звестак фашысты расстралялі таксама і больш за 150 габрэяў з Галоўчына, не разбіраючыся пры гэтым ні ва ўзросце, не зважаючы на жанчын. Напрыклад, самаму старэйшаму расстралянаму габрэю з Галоўчына Моту Герману тады было крыху больш за 70 гадоў, а самым маладым – Хоню Савулкіну, М. Шпарбеку, Валодзю Клябанаву, шэрагу іншых не споўнілася нават і па годзіку.

...Сёння ў Бялынічах, Галоўчыне, Эсьмонах не пачуць габрэйскай песні, габрэйскай (як, зрэшты, і беларускай гэтаксама) мовы, сакавітага габрэйскага гумару... І адна з самых найгалоўнейшых прычынаў таму – Халакост.

Паводле перапісу 1989 года на бялыніччыне жыло 36 габрэяў. Вынікі перапісу 1999 года засведчылі наступную колькасць габрэйскага насельніцтва раёна – 23 чалавекі.

***Міхась Карпечанка, shtetle.co.i***

## МІКАЛАЙ ПАТРОНЧЫК СТАЎ КАВАЛЕРАМ

**Начальніка Круглянскай ПМК №266 Мікалая Патрончыка ўзнагародзілі ордэнам Айчыны III ступені.**

29 чэрвеня ў урачыстай абстаноўцы ордэн Мікалаю Патрончыку ўручыў сам кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка. Начальнік Круглянскай ПМК №266 быў уганараваны высокай узнагародай за шматгадовую плённую працу на гэтай пасадзе.

Будзем спадзявацца, што пасля атрымання ордэна Мікалай Патрончык перадумае сыходзіць на пенсію, бо, калі гэта адбудзецца, для Круглянскай ПМК №266 і ўсіх яе працаўнікоў настануць сапраўды цяжкія часы. Ужо зараз не ўсе заказчыкі своечасова разлічваюцца з круглянскімі будаўнікамі за зробленую працу. Толькі дзякуючы Мікалаю Патрончыку і яго асабістым сувязям грошы з іх усё ж атрымоўваецца неяк "выбіваць".

Рэдакцыя газеты "Рэгіён" віншуе Мікалая Патрончыка з высокай узнагародай і жадае яму далейшых поспехаў у плённай працы на карысць нашай краіны!

### Анекдот дня

*Своим окладом довольны только святые на иконе.*

## ПАЛАТА ПРАДСТАЎНІКОЎ ПРЫЗНАЧЫЛА ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА НА 11 КАСТРЫЧНІКА

*(Заканч. Пачатак на стар. 3)*




яшчэ не ўсе мінулыя кандыдаты на пасаду прэзідэнта з турмы выйшлі. І зноў садзіцца ў турму не вельмі хочацца нікому з найбольш рэйтынгавых прэтэндэнтаў, паверце.

Таму, як спявалася ў адной любімай нашымі ідэолагамі напярэдадні мінулых выбараў песенцы, "Саня застанецца з намі, усё будзе "ОК".

Праўда, не зусім зразумела, якімі такімі дасягненнямі, акрамя праславутай стабільнасці, будзе радаваць свой верны электарат наш Аляксандр Рыгоравіч. Пра сярэдні заробак у 1000 долараў, які нам абяцалі нашы слаўныя чыноўнікі к 2015 году падчас папярэдняй прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, зараз ніхто з іх нават не ўзгадвае. Заводы і фабрыкі ў краіне дыхаюць на ладан, пра сельскую гаспадарку наогул прамаўчу, бо паважаныя чытачы "Рэгіёна" лепш за мяне ведаюць яе сапраўдны стан. Адзінае, што ў нас стабільна расце – дык гэта знешняя запазычанасць. Ну і заробкі ў чыноўнікаў, якія і забяспечваюць патрэбныя вынікі выбараў.

Так што мяне асабіста зараз хвалююць не прадстаячыя "выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі", а тое, якім будзе жыццё ў нашай краіне пасля гэтых выбараў.

***Іван Барысаў***

Рэгіён

Грамадска-палітычная газета.
Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Надрукавана на ўласным абсталяванні па адрасе: 213173, Магілёўская вобл., Бялыніцкі р-н, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Наклад 299 асобнікаў. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Падпісана ў друк 02.07.2014 г. у 08-00.